

Жыві, Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

№ 166 (179) 27 жніўня 1991 г. Аўторак.

ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## ФАКС

### ...И беспартийная круглая печать

**Со вчерашнего дня издательство ЦК Компартии Белоруссии переименовано в «Белорусский Дом печати».**

Это сделано после решения Верховного Совета БССР о временной приостановке деятельности КПБ на территории республики и, как сказано в приказе генерального директора издательства Б. Кутового, для обеспечения оперативного выпуска полиграфической продукции и в связи с необходимостью обеспечения постоянной работой трудового коллектива типографии.

До принятия законного решения правительством БССР об учредителе издательство «Белорусский Дом печати» будет продолжать привычную производственную, хозяйственную и финансовую деятельность. Дано уже указание в месячный срок изготовить новые круглую печать и фирменные бланки издательства.

### Светит незнакомая «Звязда»

**Вчера в республиканских газетах «Звязда» и «Советская Белоруссия» состоялись партийные собрания.**

Коммунисты «Звязды» в полном составе вышли из рядов КПБ. В «Советской Белоруссии» с партийным билетом расстался только один человек — ответственный секретарь Николай Дубовик.

К сведению: перед журналистами «Народной газеты» подобная проблема вообще не стоит. Партийной организации в редакции никогда не было.

### Обком закрыт. Все ушли...

Витебский обком КПБ закрыт, но у его здания вчера собралась группа горожан. Рядом плакаты: «КПБ — к ответу!», «Здесь поддержали переворот...» Над крыльцом развевались национальные флаги — белорусский и российский. Организовали пикет — Витебская рада БНФ и ее единомышленники из других общественных движений.

***

Странную картину видели вчера утром в Гомеле прохожие на улице Ланге: недавно возглавивший обком КПБ первый секретарь Владимир Шаплыко встречал работников своего аппарата прямо на ступеньках. Кабинеты обкома и горкома КПБ оказались опечатанными. Белые бумажные прямоугольники с печатью и подписью «Без представителей горсовета не вскрывать» приклеены на вывесках партийных комитетов.

### «Хлебное» дело

**СУХУМИ. Со вчерашнего дня приобрести хлеб в торговой сети города можно только по предъявлении продавцу паспорта с местной пропиской.**

Мера эта вынужденная и временная — исполком столицы Абхазии считает, что хлеба в городе выпекается достаточно, нужно только упорядочить торговлю этим продуктом.

### В двух словах

● Свою независимость от Советского Союза провозгласила Украина. Сегодня Верховный Совет Молдовы также планирует начать обсуждение вопроса о провозглашении независимости.

● Литва объявила, что с 26 августа берет на себя контроль границ. Этому примеру вскоре должна последовать Латвия.

● Руководство компартии Киргизии в полном составе подало в отставку.

● Старший военный советник Горбачева маршал Сергей Ахромеев, как известно, покончил жизнь самоубийством. Обозреватели отмечают, что Ахромеев был известным сторонником жесткой линии в вопросе национальной безопасности, хотя он официально не отождествлялся с заговорщиками. По сообщению Генерального прокурора СССР, маршал оставил предсмертную записку со словами о том, что все, чему он посвятил всю свою жизнь, теперь рассыпалось в прах.

● Как стало известно, застрелился управляющий делами ЦК КПСС т. Кручина.

### Лопнул супер-банк

НОВОПОЛОЦК. Плакали денежки многих участников игры «Скиф» (по типу так называемого рижского «супер-банка»), которые выложили по 900 рублей в ожидании, что эта сумма вернется к ним по почте многократно умноженной. Несмотря на предупреждения, часто появлявшиеся в печати, наивные люди клюнули на заманчивую рекламу местного общества с ограниченной ответственностью, которое, вопреки своему уставу, организовало нечестную игру. Исполком городского Совета запретил дальнейшее проведение игры. Руководители общества оштрафованы, в доход государства изъято 37 тысяч рублей, полученных в результате неуставной деятельности. Потери игравших остались невосполненными.

**Выпуск подготовлен по сообщениям Виктора ЛЕЩЕНКО, Сергея БУТКЕВИЧА, Анатолия ГОТОВЧИЦА.**

**«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

## ПАСТАНОВА

### Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб вызваленні тав. ДЗЕМЯНЦЕЯ М. І. ад абавязкаў Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Вызваліць тав. ДЗЕМЯНЦЕЯ Мікалая Іванавіча ад абавязкаў Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР у сувязі з выхадам на пенсію.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

25 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

## ДА ЧЫТАЧОЎ!

**Не сумняваемся, што наш чытач ужо добра ведае пра галоўныя вынікі надзвычайнай сесіі Вярхоўнага Савета БССР, пра тыя радыкальныя рашэнні, што — верыцца — павінны, нарэшце, расчысціць шлях да карэнных пераўтварэнняў у беларускім грамадстве. Радыё-і тэлетрансляцыя дазволіла большасці з вас сачыць за ўсімі перыпетыямі двух напружаных дзён работы парламентарыяў. І таму, відаць, няма пільнай патрэбы друкаваць у газеце ўсе выступленні. Публікуючы прамовы кіраўнікоў Вярхоўнага Савета і Савета міністраў БССР, а таксама рашэнні сесіі, рэдакцыя разам з тым імкнецца як мага шырэй пазнаёміць чытача з грамадскім рэзанансам, з меркаваннямі, уражаннямі палітыкаў і радавых грамадзян, каб дапамагчы больш глыбока і ўсебакова асэнсаваць тое, што адбылося ў гэтыя дні ў жыцці рэспублікі, якія перспектывы зараз перад намі адкрываюцца.**




## БЕЛАРУСЬ: Рэвалюцыя была мірнай



Фота Сяргея ГРЫЦА і Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА.

## Усе супярэчнасці ў жыцці нашага грамадства павінны вырашацца толькі на законнай аснове

**Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. І. Дземянцея пры адкрыцці нечарговай V сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР**

Паважаныя народныя дэпутаты, выбаршчыкі рэспублікі!

Наша сесія склікана ў сувязі з трагічнымі для Айчыны падзеямі. У ноч з 18 на 19 жніўня 1991 года быў адхілены ад улады законна выбраны Прэзідэнт краіны.

Так званы Дзяржаўны камітэт па надзвычайнаму становішчу ў СССР спрабаваў ажыццявіць антыканстытуцыйны пераварот і паставіць краіну на грань грамадзянскай вайны.

Гэтыя падзеі, як усім вам вядома, развіваліся напярэдадні падпісання новага Саюзнага дагавора. Калі мы ў пошуках ісціны і сэнсу нашага далейшага сумеснага жыцця, здавалася, прыйшлі да згоды.

Але, як паказалі падзеі, што разгарнуліся, не ўсім да душы прыйшлася такая форма сцвярджэння грамадзянскага міру і згоды ў нашым агульным вялікім доме. Рэакцыйныя сілы не прымаюць адзінства абноўленага Саюза. Вырашэнне найскладанейшых палітычных і эканамічных праблем краіны ім бачылася толькі ў сілавых метадах.

Зразумець гэта зараз надзвычай важна. Зразумець дзеля таго, каб не ўводзіць грамадства ў шокавы стан падобнымі безадказнымі авантурамі.

Тыя, хто спрабаваў з дапамогай зброі супакоіць грамадзян, не хацелі прызнаць галоўнага. Таго, што дэмакратыя ўкаранілася ў нашым грамадстве глыбей, чым ім уяўлялася. Яна стварыла прынцыпова новую атмасферу грамадскага жыцця, значна яе пераўтварыла.

Менавіта дэмакратыя і свабода паўсталі на шляху гэтай небяспечнай спробы антыдзяржаўнага перавароту. Краіна і наш шматпакутны народ адхілілі крывавы шлях свайго адраджэння.

У нашых людзей выспела поўнае разуменне таго, што шляхі вырашэння ўсіх праблем сёння ляжаць у іншай плоскасці. Яны рэальна бачацца ва ўмацаванні канстытуцыйнага ладу, законнасці і правапарадку. Толькі гэта можа гарантаваць нармальнае жыццё грамадства, абараніць яго ад самавольства і беззаконнасці, розных авантур.

Цяпер, калі разблытана павуцінне падману ўсіх нас, стала зразумела, што ўчынілі гэта злачынства тыя, хто па доўгу сваіх абавязкаў павінен быў забяспечыць бяспеку Прэзідэнта краіны. Гэта загавор самазабойцаў, і яны панясуць строгае пакаранне па законах нашай краіны.

Гэта ўрок для ўсіх нас. Сутнасць яго ў тым, што нельга губляць пільнасці ніколі і ўмець прадбачыць сітуацыю і папярэдзіць яе.

Паважаныя таварышы!

Карэннае пераўтварэнне ўсіх грамадскіх адносін у краіне толькі атрымлівае сваё развіццё. Працэсы гэтыя адбываюцца балюча для ўсіх нас. Шлях да новай дзяржаўнасці цяжкі і цярністы.

Імкненне будаваць жыццё на добрых пачатках узаемнага разумення і ўзаемнай зацікаўленасці ў справах адзін аднаго, нашых народаў і дзяржаў натыкаецца на сур'ёзныя перашкоды.

Гэта натуральны працэс. Жыццё багатае на нечаканыя сітуацыі. Яно не адзін раз правярала нас на трываласць, чысціню нашых адносін і пачуццяў. І толькі добрая воля і згода дазвалялі пераадольваць самыя цяжкія моманты.

Сёння з усёй удзячнасцю мы звяртаемся да свайго добрага і блізкага суседа — рускага народа. Ён стаў у першыя рады абаронцаў канстытуцыйнага ладу, закона і правоў чалавека. Рызыкуючы свабодай і жыццём, абараніў дэмакратыю ад загавору і дыктатуры.

Пазіцыя Беларусі была, як і большасці рэспублік. Адчуўшы небяспеку, якая навісла, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР сваім зваротам заклікаў народ захоўваць вытрымку і спакой, кансалідаваць намаганні на пераадоленне ўзнікшага крызісу.

З заявай выступіла і група членаў Прэзідыума. У ёй была дадзена прававая ацэнка дзейнасці так званага «савецкага кіраўніцтва», якое стварыла камітэт па надзвычайнаму становішчу.

Прэзідыум кантраляваў сітуацыю на працягу ўсіх трывожных дзён. На тэрыторыі рэспублікі захоўвалі сілу заканадаўчыя акты Беларускай ССР, працягвалі дзейнічаць законна сфарміраваныя структуры ўлады і кіравання.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### Граждане, послушайте меня!

## ВОСКРЕСЕНИЕ!

Если бы не было путчистов, то нужно было бы выдумать их. Перефразируя эту знаменитую остроту Талейрана, мы сегодня должны признать, что три трагических дня сделали нас иными. Мы прошли время и пространство, которое в другое время преодолевали десятилетия. Стремительный ритм времени оказался не всем под силу. Даже Михаил Сергеевич не понял поначалу, что приехал из Крыма в другую страну, к другим людям.

Я диктую эти строки в нашей маленькой редакционной комнате (увы, «Народная газета» в отличие от изданий, опекаемых ЦК КПБ, до сих пор ютится на положении бедной родственницы в Доме правительства!) Внизу бурлит площадь, и сегодняшние триумфаторы, еще не остывшие от невероятного марафона воскресного, во всех отношениях необыкновенного дня, продолжают разговор с людьми, дежурившими перед громкоговорителями, сделавших площадь продолжением зала сессии.

Мои коллеги, находившиеся в зале, расскажут вам о том, что происходило на сессии, я же ограничусь некоторыми размышлениями, которые мучают и не дают успокоиться.

Только что передали, что застрелился маршал Ахромеев. О мертвых либо хорошо, либо ничего. Все это так, но как забыть самоуверенных и чванливых военачальников, вышедших из народных низов, но отгородившихся от народа, ставших кастой, считающих, что им позволено все. Вспомним, как под улюлюканье плебействующего зала топтал Ахромеев академика Сахарова, вспомним, как строевым шагом он поднимался на трибуну и вколачивал гвозди то в межрегиональную группу, то в Собчака, то в Ельцина. Да, в дни путча люди в погонах наполнили нормальным человеческим смыслом затертую от частых употреблений фразу: «Народ и армия едины».

Но честь ее знамен спасли не маршалы, эта партийная номенклатура в лампасах, а молодые генералы, майоры и капитаны, будущее Вооруженных Сил! Слава им!

Здесь излишни любые слова.

Дни путча рассказали о многом.

Мне стыдно сейчас за тех своих коллег, журналистов, которые уподобились горьковскому пингвину, спрятавшему свое тело в утесах конформизма и молчания. Честным репортерам из «Знамени юности» в тот понедельник вертухаи из ЦК партии вбили в рот кляп. Но почему молчали их «старшие товарищи» из так называемых партийных газет, почему Белорусское телеграфное агентство распространяло злобный бред академика Дронова, который восхищался «дальновидностью» ГКЧП?

Собственно говоря, обо всем этом можно и не писать. Противно. Да и не совсем хорошо, очевидно, говорить обо всем этом перед тем, как прокуроры и следователи включатся в работу по оценке действий тех, кто прямо или косвенно подстрекал к путчу в республике.

Но и молчать тоже противно. С одной стороны, мне очень не хочется, чтобы восторжествовал жестокий принцип «Горе побежденным», но как забыть брехтовское «Еще живет чрево, которое родило гада»? Божья кара, несомненно, — важный инструмент, но в цивилизованной стране должны осуществляться и более конкретные меры. Мне будет недостаточно знать, что люди из Союза писателей ограничатся тем, что перестанут подавать руку своему коллеге Скобелеву. Нет, не со страниц фашистского «Политического собеседника», который вот уже не один год сокращенно зовется в народе «ПЕС», он должен объяснить сегодня всем нам, что толкало его, облеченного высокой должностью ответработника ЦК КПБ, систематически, в каждом номере бросать в белорусскую землю семена злобы и ненависти.

Я не пользуюсь моментом, я помню, что «не суди и судим не будешь», но мне бы хотелось, чтобы изнасилованное Белорусское телевидение предоставило экран секретарю Минского горкома Чикину, ставшему сразу теневым редактором трех фашистских изданий, — «Мы и время», «Славянские ведомости» и какой-то совершенно озверевшей газетенки «Политика, перспективы, практика», напечатавшей гнусный пасквиль-карикатуру на Ельцина и Горбачева, из которой явствовало, что оба они шпионы американской и израильской разведок. Ну, мистер Икс из Минского горкома, у вас хватит сейчас смелости сказать что-то людям, которых вы отравляли в течение года расизмом и злобой?

Хватит. Кесарю кесарево. Пусть свое дело вершат прокуроры. Ликует площадь. Праздник. Но об одном я думаю с тревогой и надеждой. Минск и другие города Белоруссии не должны стать ареной того «народного гнева», который в форме отвратительных бесчинств вылился на улицы Москвы. В Москве ломают и оскверняют памятники. Мы победили, но мы не должны мстить мертвым, не должны изливать зло и досаду, душившие нас последние годы, на мраморные и бронзовые идолы. Мы должны поздравить друг друга, крепко подумать над тем, что произошло, и взяться за работу.

Хлеб не растет на площадях, на митингах не производится сало. Вокруг лень, запустение и беспорядок. Это — предпосылки для новых вспышек, для реанимации тоталитаризма. Кандидатов в Бонапарты, реваншистов — много!

Нам есть о чем подумать. Бесславно завершилась история коммунистической партии, которая была рождена злыми титанами духа и выродилась за 70 лет в пигмеев. Можно ли сегодня бросать камень в тех, кто состоял в партии, но был низведен лишь для того, чтобы платить взносы и от чьих имен вершились черные дела? Разве я несу ответственность за деятельность Малофеева? Разве Иван, мой друг-механизатор из колхоза на Зельвенщине, должен отвечать за члена Политбюро изменника Шенина? Нам всем придется проявить много терпимости и человечности, чтобы не дать злу выплеснуться на невинных людей.

Белоруссия — самостоятельное государство!

За чеканной радостью этих слов от нас не должна ускользнуть основополагающая мысль — мы все, белорусы, русские, поляки, украинцы, евреи, татары — все, кто живет на этой земле и считает себя патриотами новой Беларуси, должны забыть о гнусной пятой графе, ставшей пограничной линией между людьми. Это коммунисты-интернационалисты с их дьявольской изобретательностью делали из нас злое стадо, искусственно подогревали низменное националистическое чувство, толкая людей друг на друга. Нам досталось страшное наследство так называемого окончательного решения национального вопроса и так называемой мудрой национальной политики. Потрясенные, мы увидели, что еще в детских садах дети знают слово «жид», кличку «чурка» и с упоением рассказывают анекдоты про чукчей.

Потом эти дети вырастают и убивают людей в Карабахе, Литве, да и просто на городских улицах тихих городов.

Мы должны убить в себе Дракона расовых предрассудков!

Пусть об этом напоминают нам три мальчика, три Героя Советского Союза, русские и еврей, отдавшие жизнь на мостовых Москвы и сохранившие Демократию! Они не спрашивали друг у друга национальность, и пули реакции тоже не спрашивали их об этом. Их могилы на Ваганьковском должны для нас стать не просто местом молитвы и поклонения, но, главным образом, символическим единением в понимании пути, который должен привести нас к Храму.

Мы — люди Белоруссии! Люди Земли!

Будем этим гордиться!

...Низко опустив головы, из Дома правительства расходятся те, кто еще вчера считался всесильным «коммунистическим большинством». Но они уже преодолевают шок поражения. Едва ли не на шею ко мне бросился один, ставший депутатом исключительно благодаря своему нахождению в первых секретарях райкома партии.

— Поздравляю, — закричал он мне. — А что делают гады в Москве? Хотят нас закабалить, хотят сделать нас Северо-Западным краем. Не выйдет!

Я с изумлением посмотрел на этого красавца, который, как козленок, покрутившись в живой воде, вновь метит в Иваны-царевичи. Он не один, он отчаянно борется. Это из его окружения несется клич о «культе личности» Ельцина, это его боевые соратники, которые всю жизнь изворачивались и лгали на тему «дружбы народов», сегодня пугают нас «имперскими» планами Москвы и «русской агрессивностью». Вчера они морщились от слова «бацькаўшчына» и сжимали кулаки, слыша о суверенитете. Сегодня они наипервейшие патриоты. Если это загадка, то лишь для олигофренов. Они мечтают о том, что этим словоблудием можно отгородиться от демократической Москвы и от свежих ветров, которые дуют на Минск. Они хотят сохранить затхлое болотце, где, став приспособленными ко всему тритонами, они немножко выждут и вновь примутся за старое.

Парламентская оппозиция, которая титаническим трудом подготовила и успешно провела новые законы, не должна предаваться эйфории. Сделан только первый шаг. Настоящая работа начинается завтра. Клич «Жыве Беларусь!» привлекателен, но он требует решительности, самоотдачи, мудрости и труда.

Павел ЯКУБОВИЧ.

25 августа.

### Нататкі з сесіі: асабісты погляд

## Ад праклёнаў да авацый

**Няхай пашкадуе той мінчанін, які не прыйшоў нядзельным вечарам на плошчу перад Домам урада. Такой аднадушнай радасці на гэтым месцы не было ніколі. Уявіце сабе, менавіта авацыяй і дружнымі прывітальнымі воклічамі грамадзяне цяпер ужо незалежнай Беларусі віталі дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Не ведаю, ці ўгадаў бы зыход сесіі хто-небудзь з вучняў Настрадамуса, але ніхто з мясцовых палітыкаў гэтага не прадбачыў. Аддадзім належнае святочнаму фіналу, але пагодзімся, што арганізоўваць святочныя карнавалы не да часу, хаця б па той прычыне, што неабходна ўсвядоміць, якія вятры пранесліся над вышэйшым заканадаўчым органам улады.**

Напярэдадні, у пятніцу вечарам і суботу да паўдня, па калідорах Дома ўрада заклапочана сноўдалі з кабінета ў кабінет партыйныя функцыянеры абласнога маштабу. Яны спяшаліся даінструктаваць народных дэпутатаў са сваіх абласцей.

Сесія дала некалькі ўрокаў усяму народу. Першы ўрок: КПБ за прайшоўшы тыдзень і асабліва на сесіі пераканаўча прадэманстравала сваю няжыццяздольнасць.

Не ведаю, якія ўстаноўкі нарадзіліся ў будынку ЦК КПБ, які рэзка губляў давер у апошні час, але няма сумненняў, што Малафееву, Камаю, Ціхіню і іншым хацелася і на гэты раз утрымацца ў сваіх крэслах, вельмі ўжо ўтульнымі яны ім здаюцца. Партыйная вярхушка і зараз прадэманстравала даўно знаёмыя ўзоры хлусні і крывадушнасці, у чарговы раз здраджваючы тым членам партыі, якія ніколі не шукалі ў ёй выгоды. Менавіта ў сценах ЦК КПБ нарадзіўся вядомы надрукаваны дакумент аб фактычным прызнанні дзеянняў злачыннай янаеўскай групы. На месцах самыя шустрыя партыйныя функцыянеры, як гэта адбылося ў Магілёве і Лідзе, прымалі ўжо праграмы дзеянняў. Рэдакцыя мае звесткі, што ў некаторых раённых цэнтрах райкамаўскія «дзеячы» ўжо аб'яўлялі публічна аб стварэнні мясцовых структур ГКЧП.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

Народная газета

# Нечарговая пятая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання

## Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

### Аб наданні статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Надаць статус канстытуцыйнага закона Беларускай ССР Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

2. У выпадках, калі артыкулы дзеючай Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР уваходзяць у пярэчанне з палажэннямі Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, кіравацца Дэкларацыяй як канстытуцыйным законам Беларускай ССР.

3. Даручыць Камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па заканадаўству падрыхтаваць да наступнай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР папраўкі да дзеючай Канстытуцыі Беларускай ССР.

4. Даручыць Канстытуцыйнай камісіі прывесці тэкст праекта рыхтуемай Канстытуцыі рэспублікі ў адпаведнасць з палажэннямі Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

25 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

## Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

### Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) Беларускай ССР

У мэтах забеспячэння далейшага ажыццяўлення ў рэспубліцы эканамічных і палітычных пераўтварэнняў Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Унесці ў Канстытуцыю (Асноўны Закон) Беларускай ССР наступныя змяненні і дапаўненні:

I. У главе 7 «Беларуская ССР — саюзная рэспубліка ў складзе СССР» артыкулы 72 і 73 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 72. На тэрыторыі Беларускай ССР устанаўліваецца вяршэнства Канстытуцыі Беларускай ССР і законаў Беларускай ССР.

Заканадаўства Саюза ССР дзейнічае на тэрыторыі Беларускай ССР, калі яно не супярэчыць заканадаўству Беларускай ССР.

Артыкул 73. Тэрыторыя Беларускай ССР з'яўляецца непадзельнай і недатыкальнай і не можа быць зменена або выкарыстана без згоды Беларускай ССР.

Усе пытанні аб граніцах Беларускай ССР вырашаюцца на аснове ўзаемнай згоды паміж Беларускай ССР і сумежнымі дзяржавамі шляхам заключэння адпаведных дагавораў, якія падлягаюць ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Беларускай ССР».

II. Главу 19 «Пракуратура» выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Глава 19. Пракуратура

Артыкул 163. Нагляд за дакладным і аднолькавым выкананнем законаў усімі міністэрствамі і іншымі органамі дзяржаўнага кіравання, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі, мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў, іх выканаўчымі і распарадчымі органамі, грамадскімі аб'яднаннямі, службовымі асобамі, а таксама грамадзянамі на тэрыторыі Беларускай ССР ажыццяўляецца Генеральным пракурорам Беларускай ССР і ніжэйстаячымі пракурорамі.

У дзейнасці па нагляду за выкананнем законаў Саюза ССР на тэрыторыі Беларускай ССР Генеральны пракурор Беларускай ССР і ніжэйстаячыя пракуроры ўзаемадзейнічаюць з Пракуратурай Саюза ССР.

Артыкул 164. Генеральны пракурор Беларускай ССР выбіраецца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР і яму падсправаздачны.

Ніжэйстаячыя пракуроры назначаюцца Генеральным пракурорам Беларускай ССР і яму падсправаздачныя.

Артыкул 165. Тэрмін паўнамоцтваў Генеральнага пракурора Беларускай ССР і ўсіх ніжэйстаячых пракурораў — пяць гадоў.

Артыкул 166. Органы пракуратуры Беларускай ССР складаюць адзіную сістэму і ажыццяўляюць паўнамоцтвы незалежна ад якіх бы там ні было мясцовых органаў, падпарадкоўваючыся толькі Генеральнаму пракурору Беларускай ССР».

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

25 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

## Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

### Аб некаторых змяненнях у сістэме органаў дзяржаўнага кіравання Беларускай ССР

У адпаведнасці з Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Пераўтварыць:

саюзна-рэспубліканскае Міністэрства ўнутраных спраў Беларускай ССР у рэспубліканскае Міністэрства ўнутраных спраў Беларускай ССР, падпарадкаваўшы яму ўнутраныя войскі Міністэрства ўнутраных спраў СССР і навучальныя ўстановы Міністэрства ўнутраных спраў СССР, размешчаныя на тэрыторыі Беларускай ССР;

саюзна-рэспубліканскі Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларускай ССР у рэспубліканскі Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларускай ССР.

2. У сувязі з прадугледжанымі гэтым Законам змяненнямі ў сістэме органаў дзяржаўнага кіравання ўнесці ў Закон Беларускай ССР ад 20 чэрвеня 1979 года «Аб Савеце Міністраў Беларускай ССР» (ЗЗ БССР, 1979 г., № 18, арт. 296; 1989 г., № 24, арт. 248; № 35, арт. 387; 1990 г., № 21, арт. 370; Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., № 10 (12), арт. 117) наступныя змяненні і дапаўненні:

з артыкула 24 выключыць словы «Міністэрства ўнутраных спраў Беларускай ССР»;

артыкул 25 пасля слоў «Да рэспубліканскіх міністэрстваў Беларускай ССР адносяцца» дапоўніць словамі «Міністэрства ўнутраных спраў Беларускай ССР»;

з артыкула 26 выключыць словы «Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларускай ССР»;

артыкул 27 пасля слоў «Дзяржаўны камітэт Беларускай ССР па эканоміцы і планаванню» дапоўніць словамі «Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларускай ССР».

3. Савету Міністраў Беларускай ССР падрыхтаваць праект закона Беларускай ССР аб органах дзяржаўнай бяспекі Беларускай ССР у мэтах надзейнай абароны канстытуцыйнага ладу рэспублікі.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

25 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ — КПСС на тэрыторыі Беларускай ССР

У сувязі з падзеямі, якія звязаны з дзяржаўным пераваротам, Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Часова прыпыніць дзейнасць КПБ—КПСС на тэрыторыі Беларускай ССР.

2. Даручыць Пракуратуры Беларускай ССР ажыццявіць праверку дзейнасці партыйных органаў КПБ—КПСС усіх узроўняў для высвятлення іх дачынення да дзейнасці ГКЧП і прыняць меры ў адпаведнасці з законам.

3. Даручыць Савету Міністраў Беларускай ССР неадкладна апячатаць памяшканні архіваў, сакрэтнага справаводства, урадавай тэлефоннай сувязі КПБ—КПСС і ЛКСМБ.

4. Гэту Пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

25 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб дэпартызацыі органаў дзяржаўнай улады і кіравання Беларускай ССР, дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і ўласнасці Камуністычнай партыі Беларусі і Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Забараніць стварэнне новых і дзейнасць існуючых структур КПБ, іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія дамагаюцца палітычных мэт, у органах дзяржаўнай улады і кіравання, на дзяржаўных прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях, размешчаных на тэрыторыі Беларускай ССР.

2. Пракуратуры Беларускай ССР, Савету Міністраў Беларускай ССР да чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР унесці прапановы аб перадачы ўласнасці КПБ і ЛКСМБ ва ўласнасць Беларускай ССР.

3. Савету Міністраў Беларускай ССР, мясцовым Саветам народных дэпутатаў, банкаўскім установам да вырашэння пытання аб уласнасці КПБ і ЛКСМБ узяць яе пад ахову і выключыць выкарыстанне без дазволу Камітэта па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР.

4. Перарэгістраваць усе вытворчыя і камерцыйныя прадпрыемствы з фінансавым удзелам КПБ і ЛКСМБ з абавязковым прадстаўленнем дэкларацый аб утварэнні іх устаноўчага фонду і крыніц набыцця маёмасці.

5. Забараніць выкарыстанне каналаў урадавай і іншай спецыяльнай дзяржаўнай сувязі грамадскімі аб'яднаннямі, якія дамагаюцца палітычных мэт.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

25 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР

Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Аб'явіць палітычную і эканамічную незалежнасць Беларускай ССР.

2. Перадаць ва ўласнасць Беларускай ССР усе прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы саюзнага падпарадкавання, размешчаныя на тэрыторыі рэспублікі, за выключэннем тых, кіраўніцтва якімі перададзена згодна з заканадаўствам Беларускай ССР адпаведным органам Саюза ССР.

Савету Міністраў Беларускай ССР тэрмінова прыняць нарматыўныя акты аб парадку перадачы да 1 студзеня 1992 года ўказанай уласнасці ў веданне рэспублікі. У ходзе рэалізацыі дадзенай Пастановы ажыццявіць узаемадзеянне з саюзнымі рэспублікамі па пытаннях, закранаючых іх інтарэсы, забяспечыць нармальнае функцыяніраванне эканомікі і сацыяльнай сферы Беларускай ССР.

3. Гэту Пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

25 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб бягучым моманце

Дзяржава і рэспубліка ў апошнія дні перажылі складаны палітычны перыяд.

Увёўшы ў зман насельніцтва дзяржавы лжывай інфармацыяй аб немагчымасці па стану здароўя выканання Гарбачовым М. С. абавязкаў Прэзідэнта СССР, так званы Дзяржаўны камітэт па надзвычайнаму становішчу ў СССР (ГКЧП) ажыццявіў спробу захопу ўлады. Блакіравалася дзейнасць органаў дзяржаўнай улады і кіравання, у асобных мясцовасцях было ўведзена надзвычайнае становішча, рад рэгіёнаў кантраляваўся войскамі. На працягу некалькіх дзён пад пагрозай знаходзіліся заваяваныя ў перыяд перабудовы дэмакратычныя пераўтварэнні, правы і свабоды грамадзян. Многімі перадавымі сіламі грамадства, палітычнымі дзеячамі і грамадзянамі такая сітуацыя была ацэнена адмоўна, яны рашуча выступілі за аднаўленне ў дзяржаве канстытуцыйнага парадку.

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Асудзіць антыканстытуцыйныя дзеянні членаў ГКЧП і падтрымаўшых іх грамадска-палітычных утварэнняў, органаў дзяржаўнай улады і кіравання, службовых асоб і грамадзян.

Стварыць Часовую камісію Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па ацэнцы іх дзеянняў на тэрыторыі рэспублікі ў саставе 7 народных дэпутатаў Беларускай ССР:

**Старшыня камісіі**

ПЫРХ Ігар Іванавіч

**Члены камісіі**

ВАСІЛЕЎСКІ Міхаіл Уладзіміравіч

ДАЎЛЮД Аляксей Уладзіміравіч

ЗВЕРАЎ Леанід Аляксандравіч

МАРЫНІЧ Міхаіл Афанасьевіч

ПАПОЎ Павел Аляксеевіч

СЦЕПАНЕНКА Мікалай Іванавіч.

Часовай камісіі прадставіць справаздачу аб праведзенай рабоце да чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

2. Адзначыць, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР звярнуўся да беларускага народа з заклікам аб захаванні спакою. У процівагу заяве і пастанове № 1 самазванага ГКЧП Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР пацвердзіў, што на тэрыторыі рэспублікі захоўваюць сілу заканадаўчыя акты Беларускай ССР, працягваюць дзейнічаць законна сфарміраваныя ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларускай ССР структуры дзяржаўнай улады і кіравання, але не даў дакладнай палітычнай ацэнкі неканстытуцыйнасці стварэння і дзеянняў гэтага камітэта.

3. Заклікаць усе грамадскія аб'яднанні, працоўныя калектывы, усіх службовых асоб і грамадзян Беларускай ССР да кансалідацыі сіл па ўмацаванню канстытуцыйнага ладу, законнасці і правапарадку, да недапушчэння ў далейшым утварэння неканстытуцыйных органаў улады і кіравання. Адзначыць, што надзвычайныя падзеі, якія адбыліся, не павінны паслужыць прычынай да разладу паміж людзьмі, да звядзення палітычных рахункаў.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

25 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб змяненні павесткі дня нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Выключыць з павесткі дня нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання разгляд пытання аб Саюзным дагаворы.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.**

25 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб прызнанні паўнамоцтваў народных дэпутатаў Беларускай ССР, выбраных 11 і 16 жніўня 1991 года

Разгледзеўшы прадстаўленне Мандатнай камісіі, Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Прызнаць паўнамоцтвы народных дэпутатаў Беларускай ССР:

МАРКОЎСКАГА Мікалая Марцінавіча, выбранага 11 жніўня 1991 года ад Нараўлянскай выбарчай акругі № 222 Гомельскай вобласці;

АВЕЧКІНА Аляксандра Пятровіча, выбранага 16 жніўня 1991 года ад Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

24 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

---

По гарачых слядах

## ...Калі дакументы пад замком

Прыпынена дзейнасць КПБ—КПСС. Аднак пастанова Вярхоўнага Савета — гэта адно, а як яна яшчэ рэалізоўваецца?

Панядзелак, 11 гадзін. Сакратар Савецкага РК КПБ г. Мінска Аляксандр Асіпенка:

— Рашэнне, вядома, прынята, але мы пакуль ніякіх дакументаў не атрымалі. Учора прадстаўнікі райсавета апячаталі бухгалтэрыю, агульны аддзел, яшчэ некаторыя пакоі. Што будзе далей, невядома. Бо існуюць дзве пастановы — аб дэпартызацыі і аб прыпыненні дзейнасці кампартыі. Як нам праводзіць дэпартызацыю, калі дакументы пад замком? Хто павінен яе праводзіць, калі наша дзейнасць прыпынена? Таму мы пакуль чакаем неабходных растлумачэнняў...

Што ж, са словамі Аляксандра Асіпенкі можна пагадзіцца: у нас, як заўсёды, лягчэй за ўсё прыняць рашэнне. А вось падумаць, як яго выканаць, вельмі часта не дадумваемся ці спазняемся. Мы павінны ўлічваць, што сёння дзесяткі, сотні тысяч камуністаў аказаліся ў вельмі складаным становішчы. І мы павінны падумаць пра іх лёс, павінны даць кожнаму з іх зрабіць свой выбар. А для гэтага патрэбна яснасць і для тых, хто не жадае больш мець ніякай справы з «барацьбой за камунізм», і для тых, хто думае на базе КПБ стварыць новыя партыі іншага накірунку, і для тых, хто, нягледзячы ні на што, будзе адстойваць ідэі і справы Леніна—Сталіна.

**Сяргей ПАЛЯШУК.**

Ліст ураду і парламенту

## Дзе ж тут кансалідацыя?

Нас заклікаюць быць законапаслухмянымі. Вельмі добра. Але ж чаму тады самі заканадаўцы ігнаруюць прыняты і ўступіўшы ў сілу Закон аб мовах? Дрэнны прыклад законапаслухмянасці.

Нам увесь час гавораць, што набалелыя пытанні вырашаюцца не страйкамі і мітынгамі, а перамовамі за круглым сталом. Якая хлусня! Прапанову дэпутата Цумарава аб ужытку беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі дэпутацкая большасць у беларускім Вярхоўным Савеце нават не ўключыла ў парадак дня для абмеркавання.

У гэты самы час з Прэзідыума на ўсю рэспубліку прагучалі сцішаныя словы: «Зачем нужно насилие в насаждении белорусского языка?» Не, няма тут ніякага насілля, а ёсць Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», і яго трэба выконваць. Вось і ўсё.

Перакананы, што калі б дадзенае пытанне на абмеркаванне Вярхоўнага Савета ўносіў не дэпутат Цумараў, а, скажам, дэпутат Ціхіня ці Камай, яно тут жа было б прынята. Шкада толькі, што з іхняга боку ніколі гэтага не будзе.

Дзе ж тут будзе тая кансалідацыя, калі дэпутаты гавораць на розных мовах? Яна ўсталюецца толькі тады, калі наш беларускі парламент загаворыць на адной мове — беларускай.

**Станіслаў ШЫШКО.**
Ваўкавыскі раён.

Факт

## Не за длинным долларом...

ПОЛОЦК.
**Голоса молодых американцев зазвучали под сводами Спасо-Евфросиньевского монастыря, возвращенного схимникам.**

Приверженцы православия — студенты из разных городов США во главе со священником отцом Федором Челпоном решили принять участие в реставрации монастырских помещений. «Студенческий строительный отряд» из-за океана работает на загляденье.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

Чрезвычайная ситуация

## Кто против Советской власти в Молодечно?

**Весть о том, что народные депутаты БССР Геннадий Дмитриевич Карпенко и Виктор Иосифович Гончар, оставив уютные кабинеты в Минске, уезжают работать в Молодечненский горисполком, была неожиданностью. Каких только пересудов на этот счет не появилось. А они знай себе твердо решили на деле доказать, что при творческом отношении к работе в горисполкоме можно создать зону экономического благополучия с вытекающим отсюда ростом благосостояния народа.**

Была ли в этом решении доля риска? Несомненно. Но выбор Гончара и Карпенко не случаен. И один и второй имеют ученые степени, у последнего, к тому же, солидный опыт практической работы. Да и проблемы города Молодечно известны Карпенко не понаслышке.

О том, хороши или плохи идеи новых председателя и его заместителей, судить, может быть, и рано. За несколько месяцев трудно провернуть маховик бюрократической управленческой машины. Еще труднее — доказать людям правомерность того или иного новшества. Особенно тем, кто наделен властью, годами воспитывавшей гипертрофированное послушание верхам. И, пожалуй, самым нелегким в этой работе стало преодоление сопротивления старых структур.

Сегодня всем уже ясно — дело с мертвой точки сдвинулось. В Молодечно началась коренная перестройка торговли и сферы обслуживания. Начали с небольшого.

Продавали в городе два кооператива мороженое. Дело хорошее, что тут говорить. И хотя народ в принципе был доволен, прибыли в госказну кооперативы почти не давали.

— Им надо создать конкуренцию, — решили в горисполкоме.

Вскоре на одной из центральных улиц открылся магазин «Пингвин», оснащенный оборудованием одноименной западной фирмы. Цена продукции та же, что и у кооперативов. Но качество какое! Вес порции побольше. И обслуживание по высшему классу: для отбора обслуживающего персонала проводили конкурс среди продавцов и жителей города. Естественно, покупатель отвернулся от кооперативов. Вскоре один из них закрылся, а второй сворачивает свою деятельность.

Приведенный факт может на первый взгляд показаться малозначительным. Но я привел его потому, что за ним — образ мышления «отцов» города, система подхода к решению проблемы.

С мороженым все было просто. Но когда коснулось серьезных, отработанных годами, государственных структур, появились сложности. И немалые.

В горисполком Карпенко и Гончар пришли с четкой программой действий. Одним из ее пунктов значился перевод предприятий, перерабатывающих сельхозпродукцию, в подчинение горисполкома. Цель преследовалась одна — улучшить обеспечение города продуктами питания.

Начали опять же с небольшого. Направили ходатайство в Президиум Верховного Совета БССР о передаче молодечненского агропромышленного комплекса «Молодечненский» в совместное подчинение горсовета и райсовета. (О выгодности подобной реорганизации чуть позже.) Президиум обязует Минский облсовет, Молодечненские гор- и райсоветы разработать и внести предложения. Протокол от 16 мая за подписью Н. И. Дементея ложится и на стол первого заместителя председателя облсовета, председателя областного агропромышленного комплекса А. М. Жука. Бумага эта вызвала у высокопоставленного руководителя следующую реакцию. На том же экземпляре протокола 23 мая пишется записка заместителю Председателя Совмина республики тов. Лингу: «Уважаемый Сергей Степанович! Это же волюнтаризм высшего класса и дилетантство! Ваше отношение? Этот экземпляр для Вас». Под секретным сим документом стоит подпись Жука. Похоже, в такой ситуации председателю областного АПК нужен был более высокий единомышленник.

27 июля этого года приходит выписка из протокола Минского облсовета за подписью его председателя А. И. Тишкевича, в которой говорится: «Передать Молодечненский горплодоовощехоз с подчинения АПК «Молодечненский» в подчинение Молодечненскому городскому Совету народных депутатов». А уже 31 июля тов. Жук дает следующий ответ: «Агрокомбинат был создан решением Совмина БССР как единое структурное подразделение, которое объединяет и координирует работу хозяйств и предприятий по производству, переработке и реализации сельхозпродукции. В связи с этим разрыв связи между производством и реализацией плодоовощной продукции приведет к сокращению их объемов выращивания, что отрицательно скажется на обеспечении населения овощами и фруктами».

Читаешь эти документы, и складывается впечатление, будто Тишкевич и Жук работают в совершенно разных конторах, занимаются совершенно разным делом.

А пока суть да дело, Карпенко и Гончар осуществляют свою идею. Договорились с заинтересованными организациями Молдовы, закупили по довольно низкой цене, например, помидоры и тем самым создали конкуренцию госторговле и частным предпринимателям. Все это привело к нивелированию цен.

Килограмм помидоров в Молодечно на день моего приезда стоил всего 2,5—2,7 рубля. По более дорогой цене их просто никто не брал бы.

Новшества Карпенко и Гончара во многих ситуациях встречаются в штыки. Вот, допустим, ввели они муниципальный налог с предприятий. Подобные налоги существуют во всех цивилизованных странах мира. После долгих дебатов решение было принято. Городская казна имеет дополнительные средства для развития города.

Или провели решение о передаче земли в черте города горисполкому. Теперь любому предприятию, чтобы что-то построить, надо у горисполкома эту землю выкупать и платить довольно приличную сумму. Я слышал возмущение одного директора предприятия, который считает, что горисполком, мол, сильно обдирает: «За эти деньги я бы столько заводских коттеджей построил».

Резон вроде бы в этих словах есть. Для города старается директор. Но пока земля его, деньги его, он поступает как уездный князь: хочу даю эти деньги, а хочу — не даю. Когда же финансы у горисполкома, он сам решает, как и в каком порядке развивать город, а не стоит с протянутой рукой перед государственным предприятием. Пока тщетны попытки горисполкома по приведению в действие закона о местном самоуправлении. Опять же вина, как мне кажется, в заскорузлости мышления многих руководителей городского да и областного масштабов. В рамках этого же самоуправления и программы по обеспечению города продуктами питания задумали Карпенко и Гончар взять в подчинение горисполкома мясокомбинат, гормолзавод, пивной завод. Все эти предприятия агропромышленного комплекса находятся в плачевном состоянии, требуют немедленной реконструкции. Райсовет и районный АПК никак не соглашаются с таким предложением. Поддерживают, если не сказать больше, их и областной АПК и лично его руководитель А. М. Жук. Мотивация все та же: это приведет к снижению производства продукции.

Со стороны противников идеи передачи этот механизм видится так: колхозы и совхозы, а также перерабатывающие предприятия будут подчинены разным хозяевам. Первым будет невыгодно производить продукцию. Или продавать ее будут более выгодным партнерам.

Сама же идея предполагает совсем другое. Во-первых, мясокомбинат и другие предприятия АПК не зарегистрированы в горсовете, хотя расположены на его территории. Они пока не имеют права быть юридическим лицом. Город может им запретить проводить даже финансовые операции.

При изменении же юрисдикции предприятий изменяется очень многое. Главное то, что город тут же вложит деньги в реконструкцию заводов и быстро ее проведет. После этого при переработке продукции станет меньше потерь. Без увеличения поставок сельскохозяйственного сырья образовывается весомый довесок к столу горожан.

Но кто по своей воле захочет отдавать, как говорят в народе, то, что имеет? Естественно, что районные и областные власти не желают передачи предприятий. Поэтому, не без участия областных руководителей, появляется из района письмо в Президиум Верховного Совета БССР и Совет Министров республики, где голословно доказывается еще раз, что «вопрос по созданию агропромышленной структуры, который поднимает руководство Молодечненского горсовета народных депутатов, надуман, не проработан и нереален». И ни на какие переговоры районные власти идти не хотят. Более того, своими решениями вышестоящие органы, как считают Карпенко и Гончар, ставят палки в колеса набирающему скорость горисполкомовскому экспрессу, не дают перейти на прогрессивную форму городского управления.

**Виктор ХОРОШКО.**

*P.S. Редакция ждет официального разъяснения по поводу поднятого вопроса от Миноблагропрома.*

Нам стала вядома

## Шклаўчане супраць новых пнёў і дыму

**У Магілёве не хапае цеплавых магутнасцей. Без будаўніцтва чарговай ЦЭЦ не абысціся. Рашэннем аблвыканкама яе намечана размясціць на тэрыторыі Шклоўскага раёна. Шклаўчане гэта ўспрынялі адмоўна.**

Пленум райкама прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу прыняў рашэнне аб недапушчэнні будаўніцтва ў гэтых мясцінах ЦЭЦ-3. Галоўны матыў пратэсту — малая лясістасць раёна, якая складае ўсяго 14 працэнтаў агульнай плошчы. Згодна з пастановай Савета Міністраў БССР, які зацвердзіў рэспубліканскую праграму «Экалогія», у раёнах з лясістасцю менш чым 20 працэнтаў размяшчэнне любых народнагаспадарчых аб'ектаў за кошт скарачэння лясной плошчы не дапускаецца.

Не ў меншай ступені шклаўчан непакоіць і забруджванне навакольнага асяроддзя, паколькі ЦЭЦ будзе працаваць з прымяненнем мазуту.

**Мікалай КОМЛЕЎ.**

## Маршрут для ўрача: магчымы варыянты

**Наступае дзень, і ў дзіцячых паліклініках раз за разам раздаюцца тэлефонныя званкі — выклікі ўрача на дом, каб паглядзеў хворага малыша. Урач спяшаецца. А што часам бывае ў дзіцяці?**

Звычайная прастуда. У той жа час па другому адрасу ў малога куды цяжэйшае захворванне. У першую чаргу ўрач павінен спяшацца туды, дзе ён больш патрэбны.

Менавіта такі метад вырашылі ўкараніць у дзіцячай паліклініцы № 4 г. Магілёва. Тут пры выкліку ўрача на дом перавага будзе аддавацца дзецям-інвалідам, якія пакутуюць на хранічнае захворванне, з прыкметамі інфекцыйнага заражэння. Карацей кажучы, тым, хто ў цяжкім стане.

Такі метад, як вядома, шырока прымяняецца ў многіх краінах. Ён павінен даць добры эфект таксама ў Магілёве, і ў першую чаргу ў паліклініцы № 4, дзе ўкамплектаванасць урачамі складае крыху больш за 50 працэнтаў.

Народная газета

# Нечарговая пятая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання

## Усе супярэчнасці ў жыцці нашага грамадства павінны вырашацца толькі на законнай аснове

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Мы ў тыя дні вызначылі адзіна магчымы шлях выхаду з крызісу, які ўзнік у краіне, — канстытуцыйны. І кіраваліся Законам «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Беларускай ССР». Гэта дазволіла захаваць у рэспубліцы звычайны працоўны рытм, папярэдзіць магчымыя беспарадкі.

Праваахоўныя і іншыя дзяржаўныя органы рэспублікі дзейнічалі ў гэтай абстаноўцы, абапіраючыся на Канстытуцыю і законы Беларускай ССР.

Не былі забаронены мітынгі і сходы. І ў тыя трывожныя дні не рэцэнзаваліся газеты.

Не прыпынялася дзейнасць ніводнай грамадскай структуры. Як вы разумееце, ні аб якім надзвычайным становішчы ў Беларусі не магло быць і гаворкі.

Падзеі 19—21 жніўня паказалі сапраўдную пазіцыю нашага народа, органаў дзяржаўнай улады і кіравання. Гэты бясспрэчны факт пераконвае нас у тым, што Беларусь, яе людзі цвёрда сталі на шлях дэмакратызацыі і стварэння прававой дзяржавы. У гэтым выявілася іх рашучасць паслядоўна адстойваць дзяржаўны суверэнітэт рэспублікі, правы чалавека.

Цяпер нашы намаганні павінны быць падпарадкаваны таму, як захаваць і вытрымаць узяты курс. Аднак, як паказалі нават тыя трывожныя дні, не ўсе імкнуцца да гэтага. Напрыклад, некаторыя кіраўнікі стачачных камітэтаў, таго ж Беларускага народнага фронту, іншых грамадскіх аб'яднанняў яўна расчараваны ў тым, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі заняў бескампрамісную пазіцыю.

Спрабуючы выдаць жадаемае за сапраўднае, гэтыя сілы імкнуцца ўсяляк скампраметаваць яго ў вачах народа. Для распаўсюджвання дыскрэдытуючых чутак выкарыстоўваюцца лістоўкі, сродкі масавай інфармацыі, сходы і мітынгі.

Мэта падобных акцый ясная і зразумелая — звесці разлікі па матывах адрозненняў у палітычных поглядах, вызваліць месцы ў Прэзідыуме для сваіх прадстаўнікоў.

Асаблівую стараннасць у гэтым праяўляюць народныя дэпутаты ад апазіцыі БНФ. Усе сродкі для іх аказаліся добрымі. Гучаць беззадказныя і лжывыя абвінавачванні ў адрас Прэзідыума Вярхоўнага Савета, яго Старшыні ў нібы меўшай месца падтрымцы палітычных авантурыстаў.

Імі распаўсюджваюцца розныя чуткі, якія скажаюць сутнасць маіх кантактаў з прадстаўнікамі саюзнага кіраўніцтва і кіраўніцтва рэспублік.

Падлогі, бестактоўнасць, бесцырымоннасць, хамства з боку некаторых маіх калег па парламенту пачалі праяўляцца яшчэ задоўга да гэтых трагічных падзей. І прычынай такіх адносін з'явілася мая цвёрдая пазіцыя ў пытанні падпісання новага Саюзнага дагавора. Тут, як гаворыцца, нашы ўсталяваныя ўяўленні і погляды аб значэнні гэтага лёсаноснага дакумента не супалі.

Спадзяюся, ні ў кога няма сумненняў, што прыняцце Вярхоўным Саветам Беларускай ССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі было крокам цалкам апраўданым. Адзінагалоснае прыняцце Дэкларацыі на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі сведчыла аб тым, што знойдзены аптымальныя формулы нашага суверэнітэту.

У артыкуле II гэтага дакумента абвяшчаецца, што Беларуская ССР самастойна ажыццяўляе права на добраахвотныя саюзы з іншымі дзяржавамі і свабодны выхад з гэтых саюзаў. Дэкларацыя прапаноўвае неадкладна распачаць распрацоўку Дагавора аб Саюзе суверэнных сацыялістычных дзяржаў.

Зыходзячы з прынцыпу, закладзенага ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, яшчэ ў мінулым годзе пачалася работа над праектам Саюзнага дагавора. Тады былі вызначаны паўнамоцныя прадстаўнікі рэспублікі і група экспертаў для ўдзелу ў гэтай рабоце. У іх састаў увайшлі народныя дэпутаты Беларускай ССР, вядомыя юрысты, эканамісты, вучоныя, работнікі міністэрстваў і ведамстваў. Іх прапановы разглядаліся ва ўсіх пастаянных камісіях і дэпутацкіх групах.

Правільнасць выбранага шляху пацвердзілі вынікі праведзенага вясной усесаюзнага рэферэндуму — больш 80 працэнтаў грамадзян рэспублікі, прыняўшых удзел у галасаванні, выказаліся за захаванне Саюза як абноўленай федэрацыі раўнапраўных суверэнных рэспублік. Гэты факт гаворыць аб тым, што такі падыход адказвае інтарэсам большасці насельніцтва рэспублікі і выказвае яго волю.

За прайшоўшы час мы ўсвядомілі неабходнасць і непазбежнасць абнаўлення ўзаемаадносін Беларускай ССР з іншымі рэспублікамі ў саставе адзінай дзяржавы. Такой пазіцыі прытрымліваюцца і народы іншых саюзных рэспублік, якія маюць вялікі эканамічны патэнцыял.

Яны таксама прынялі свае дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Гэтым вызначылася карэннае пераўтварэнне Саюза, прынцыпы яго абнаўлення.

Пытанне аб Саюзным дагаворы разглядалася Вярхоўным Саветам 12 чэрвеня 1991 года. Былі вызначаны асноўныя прынцыповыя падыходы і патрабаванні, якім павінен адпавядаць праект такога Дагавора.

На сесіі падкрэслівалася, што праект улічвае інтарэсы Беларускай ССР.

Утвораная Вярхоўным Саветам камісія з ліку народных дэпутатаў Беларускай ССР прыняла ўдзел у перагаворах і кансультацыях з прадстаўнікамі іншых рэспублік.

Асаблівая ўвага ўдзялялася таму, каб інтарэсы ніводнай з іх не былі ўшчэмлены.

Вярхоўны Савет Беларускай ССР, заклікаsuccessfully ўвасабляць у жыццё волю свайго народа, на чацвёртай сесіі падвёў вынікі гэтай цяжкай і адказнай работы. Былі адобраны асноўныя палажэнні праекта Саюзнага дагавора, улічаны прапановы і заўвагі ў працэсе ўзгаднення канчатковай рэдакцыі дакумента.

Падпісаць яго ад імя рэспублікі даручана Старшыні Вярхоўнага Савета з удзелам членаў падрыхтоўчай камісіі. Хачу напомніць, што за прапанаваную пастанову на чацвёртай сесіі выказалі свой пункт погляду 250 народных дэпутатаў рэспублікі. З іх прагаласавала «за» — 216, «супраць» —14, устрымалася — 20.

Такім чынам, выбар зроблены, і неканстытуцыйныя спробы паўплываць на рашэнне Вярхоўнага Савета проста авантурыстычныя.

І ўсё ж лідэры БНФ не пакідаюць надзеі затрымаць працэс.

Аб гэтым недвухсэнсоўна гаворыцца ў Звароце да народа дэпутатаў апазіцыі, які 15 і 16 жніўня апублікавалі рэспубліканскія газеты.

Я павінен сёння адкрыта сказаць народным дэпутатам і аб тым, якія пагрозы і шантаж давялося мне і некаторым членам дэлегацыі вытрымаць з боку Пазьняка З. С., Навумчыка С. І., Новікава Я. В. перад маючым адбыцца ад'ездам на падпісанне.

Нам яны з пагрозай заяўлялі, што калі не адмовімся ад удзелу ў афіцыяльнай працэдуры падпісання, то народ Беларусі гэтага не даруе, а я асабіста буду адказваць як злачынец.

Як вы ведаеце, падпісанне не адбылося з-за спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР.

У сваім настойлівым імкненні дэстабілізаваць абстаноўку члены апазіцыі на кожнай сесіі падкідваюць, скажам так, нямала адцягваючых ідэй.

Сярод іх неадкладнае правядзенне новых выбараў, перавыбранне Старшыні Вярхоўнага Савета і членаў Прэзідыума, думка якіх не задавальняе гэтых палітыкаў.

Канстытуцыя Беларускай ССР прадугледжвае магчымасць вызвалення Вярхоўным Саветам і Старшыні і іншых выбраных або назначаных ім асоб. Але рабіцца гэта павінна на законнай аснове пры наяўнасці для гэтага дастатковых падстаў.

Калі ж мы пачнём праследаваць адзін аднаго толькі за розніцу думак, злоўжываць давер'ем, то ніколі не прыйдзем да дэмакратыі, аб якой так часта гаворым.

На пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі 22 жніўня разглядалася павестка нашай сесіі. Дэпутаты ад апазіцыі настойвалі на ўключэнні ў яе парадак пытанняў аб дзеяннях у час перавароту Старшыні і членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, іншых службовых асоб рэспублікі, якія не мелі ніякіх адносін да сумных падзей.

Спадзяюся, што размова на сесіі не будзе насіць характару ўзаемных абвінавачанняў і пошуку ворагаў, а дазволіць нам зрабіць з усяго, што адбылося, адзіна правільныя вывады.

Пры гэтым будзем помніць, што маральнымі крытэрыямі паводзін народнага дэпутата павінны з'яўляцца ідэалы справядлівасці і дабра.

Паважаныя таварышы!

Сёння ні для каго не сакрэт, што наша краіна і рэспубліка перажываюць, магчыма, самы крытычны момант сваёй гісторыі. Мы яшчэ не паспелі выйсці з авантурнага перавароту ў краіне, як нас упарта падштурхоўваюць да парламенцкага і ўрадавага крызісу ў рэспубліцы.

Паміж антыканстытуцыйным пераваротам з прымяненнем узброенай сілы і іншымі незаконнымі формамі змены ўлады нямала адрозненняў. Але трэба помніць, што і тое і другое непазбежна прыводзіць да дэстабілізацыі эканомікі, узмацнення варожасці, крызісу ўлады, канфрантацыі ў грамадстве.

Вось чаму галоўную задачу Вярхоўнага Савета я бачу ў тым, каб усе супярэчнасці ў жыцці нашага грамадства вырашаліся толькі на законнай аснове. Надзейным гарантам гэтага паслужыць наша новая Канстытуцыя, работа над праектам якой практычна ідзе да завяршэння.

Толькі надзейная прававая база, высокая грамадзянская адказнасць забяспечаць нам рэалізацыю свайго дзяржаўнага суверэнітэту, дастойнае жыццё кожнага чалавека.

Дзякуй за ўвагу.

---

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ:*

## «Гэта адзіны шлях да згоды»

Шаноўныя дэпутаты, шаноўны Старшыня, грамадзяне Беларусі! Я персанальна звяртаюся да вас, шаноўны Яўген Віктаравіч. Я не буду набіраць сабе балы дзеля таго, каб прэтэндаваць на нейкую пасаду. Але давайце падумаем, што мы робім. Сітуацыя крытычная. Не ўсе мы занялі дастойную пазіцыю пад час путчу. Але ўспомнім, у якой краіне мы жывём. Калі мы выгналі з сябе страх. І ці выгналі мы яго да канца.

Ведаеце, што адбылося ў гэтыя дні? Я не ведаю як вы, я маю цяпер персанальную машыну, службовую. Але вельмі часта езджу і ў тралейбусе, і ў электрычцы і гэтак далей. І размовы былі розныя. Дабяромся мы да тых, мы пакажам, дзе іх месца. Ды і дэпутаты рукі паціралі. І ведаеце, многімі кіраваў страх. Страх не толькі за сябе. Ветэранам ужо за сябе мала аб чым можна баяцца. Ведаеце, яны пражылі сваё жыццё, у іх ёсць сем'і, ёсць дзеці, і вельмі няпроста зарыентавацца ў гэтай сітуацыі і заняць дастойную пазіцыю. Я лічу, што тыя, хто не зарыентаваўся ў гэтай сітуацыі, далёка не ўсе здраднікі і думаю, што мала сярод іх здраднікаў. Не трэба так абвінавачваць. Не трэба адну таталітарную структуру імкнуцца падмяніць другой. Мы не маем на гэта права.

Вы ведаеце, я, па сутнасці, згодзен з выступленнем чалавека, якога сюды накіраваў стачкам. Але я не згодзен з метадамі гэтага падыходу. Паслухайце, што будзе. Мы зараз заклікаем да забастоўкі. Што ж гэта за Вярхоўны Савет, што ж гэта за змагары за наш народ, калі мы адной і той жа рукой заклікаем да забастоўкі, заклікаем да таго, каб мы нічога не рабілі, заклікаем да таго, каб мы абяднелі, а другой рукой мы просім падачак у замежных дзяржаў. Мы плачам, што нашы дзеці паміраюць ад Чарнобыля, і мы гаворым: дайце нам што-небудзь.

Трэба другое пытанне ставіць. Трэба ў суботу працаваць, калі мы хочам вывесці наш люд туды, куды нам трэба. Трэба працаваць, каб заваяваць сабе права добра жыць. І трэба зрабіць усё тое, каб нам працаваць шчыра і добра не перашкаджалі.

Не выклікае ніякага сумнення пазіцыя ЦК Кампартыі Беларусі і яе вышэйшага кіраўніцтва.

Паважаныя таварышы, я не ведаю, народны дэпутат Зяляноўскі, мы маем з вамі роўныя правы як народныя дэпутаты СССР, але я лічу, што на гэтай трыбуне вы павінны былі сказаць так, што ў цяжкую мінуту ЦК Кампартыі Беларусі прыняў палітычна памылковую заяву, якая дэзарыентавала камуністаў. Я думаю, што народны дэпутат Вайцянкоў зрабіў памылку. Дарэчы, ведаеце, для мяне проста шок быў, калі я ўбачыў паперу, аб якой тут сёння гаварылі, калі ён адмяніў рашэнне. Да чаго імкнуліся гэтыя людзі? Гэтыя людзі імкнуліся да парадку. Нам даўно не хапае парадку. У нас разбэшчанасць і недысцыплінаванасць. Але нельга ўсталёўваць парадак фашысцкі, як сёння сказала Бонэр, альбо сталінскі... Трэба ўсталёўваць дастойны дэмакратычны парадак, але парадак трэба ўсталёўваць, трэба ўмацоўваць уладай, выкаваўчай уладай.

Паважаная апазіцыя, паважаныя народныя дэпутаты! Што нас можа аб'яднаць у гэтых цяжкіх абставінах? Я думаю, што Зянон Станіслававіч вельмі правільна адзначыў. Імперскія амбіцыі Расіі праявіліся ў гэты час, вы мяне прабачце. Радасць перамогі і тое, што мы, дарэчы, не паслалі віншаванне Ельцыну, гэта наша памылка, гэта, відавочна, трэба зрабіць. Але ведаеце што. Расія павінна мець усе ключавыя пасады ў кіраўніцтве. Я думаю, што давайце задумаемся над тым, а што нам даводзіцца рабіць. Якія пасады будзем мы мець? Павінны быць там разумныя людзі? Я думаю, што так. Нас можа цяпер аб'яднаць думка аб сапраўдным суверэнітэце рэспублікі. Мы павінны ўсталёўваць гэты суверэнітэт. І тыя, хто належаў да Кампартыі, і тыя, хто належыць. Я нічога не маю супраць радавых камуністаў.

Ведаеце, гэта не так лёгка. Я тых не паважаю, хто выскоквае з партыі ў адзін скок. Для мяне гэта было вельмі цяжкой задачай — выйсці з партыі. Я зрабіў гэта. Але ведаеце, я не спаў з-за гэтага. Ведаеце, гэта цяжкая задача. А я думаю, што цяпер так. Сумленныя камуністы, апазіцыя, беспартыйныя могуць аб'яднацца на гэтай падставе. Мы не можам быць прыдаткам Цэнтра і Цэнтра ў новым варыянце. Нам трэба перагледзець нашы адносіны да новага Саюзнага дагавора. І трэба рашуча заявіць тое, што, дарэчы, прапанавана ў нас у рэзалюцыі.

Далей. Што мы развіваем у грамадстве? Супрацьпастаўляць адных другім, што адну бойку заменім другой? Будзем шукаць зараз усіх здраднікаў? Усіх іх можна многа знайсці. Я б хацеў, каб у гэты момант яны ўсвядомілі, што сталі на злачынны шлях. І я заклікаў бы камуністаў, тых радавых камуністаў: звярніце ўвагу на свой ЦК, не павінен быць такі ЦК. Паглядзіце, хто ў саставе гэтага ЦК. Там даўно няма рабочых, няма тых, хто нешта вытварае сваімі рукамі. Там чыстая наменклатура. Выхаваныя Вышэйшай партыйнай школай, яны не могуць уразумець, што існуе іншы шлях развіцця. Трэба стаць на гэты іншы шлях. І давайце не будзем сёння таптаць нагамі тых, хто аднёсся няправільна да путчу. Мы затопчам здраднікаў сапраўдных і тых, хто будзе да іх прылічаны. Акрамя таго, колькі людзей прымазалася да тых, хто заняў правільную пазіцыю. Яшчэ два-тры дні, і мы б разабраліся. Я заклікаю вас, не біце адзін другога. І прапаную, які ў нас ёсць выхад. Гэта самае галоўнае.

У нас ёсць галоўны выхад. Мы павінны знайсці ў сабе мужнасць і адным разумным захадам вырашыць усе пытанні. Такі захад існуе, ён уключае і пытанне аб Старшыні, і пытанне аб Прэзідыуме, і пытанне аб Вярхоўным Савеце нагул.

Мы павінны неадкладна прыняць новы выбарчы закон, дэмакратычны. І не той закон, які нам навязала Кампартыя Беларусі. Адзін чалавек — адзін голас. Гэта галоўны прынцып, які павінен быць у гэтым законе. Пасіўныя ў палітычных адносінах людзі, калі яны не ўдзельнічаюць у выбарах, гэта няважна, не трэба набіраць 50 працэнтаў. Мы будзем мець усіх дэпутатаў, і не трэба так многа дэпутатаў. І, прабачце, не можа быць выбараў ад грамадскіх і іншых арганізацый. На падставе гэтага дэмакратычнага закона трэба абраць у гэтым годзе новы Вярхоўны Савет. І ў нас павінна хапіць мужнасці пайсці на гэты крок. **(Апладысменты).** І я думаю, што тыя дэпутаты, якія сапраўды народныя, якія тут прысутнічаюць, яны будуць абраныя. Народ не можа іх не абраць, і няхай мітусяцца тыя, хто не народны дэпутат і тут сядзіць. І калі ў нас хопіць мужнасці пайсці на гэты крок, мы можам даручыць гэтаму складу Вярхоўнага Савета і Прэзідыума, і ўрада працягваць сваю дзейнасць. І на працягу двух, максімум трох месяцаў у гэтым годзе вырашыць гэтае пытанне. Гэта адзіны шлях да згоды. Я не бачу іншага шляху і заклікаю вас устаць на гэты шлях. Дзякую за ўвагу.

---

*Вячеслав КЕБИЧ:*

## «У нашего народа хватит мудрости»

Уважаемые народные депутаты! Вы знаете, до сих пор трудно пережить огромное потрясение, связанное с событиями последней недели. Ведь практически на карту было поставлено будущее страны и каждой из республик. Уже первое постановление так называемого Государственного комитета по чрезвычайному положению фактически лишало Белоруссию всякой самостоятельности.

В связи с происшедшим хочу высказать следующее. У меня твердый принцип: всегда надо быть предельно честным, откровенным и ни в коем случае не заискивать. Вы знаете, что я неоднократно на всех уровнях выступал против аморфной непоследовательной позиции Президента Горбачева. Да и к премьеру Павлову, его решениям мое отношение было не лучшее. Но я категорический противник каких бы то ни было антиконституционных мер, тех мер, которые неизбежно бы привели к кровопролитию, ввергли бы страну в бездну тяжелейших испытаний. Поэтому, несмотря на давление сверху, правительство не поддалось ему. Было проведено заседание Президиума Совета Министров, на котором единодушно подтверждена наша принципиальная позиция. Мы не приняли к исполнению ни одного решения так называемого ГКЧП. Мы без колебаний взяли на себя всю ответственность за возможные последствия такого шага, потому что это соответствует нашим убеждениям, нашей совести, нашей обязанности перед белорусским народом.

Республика жила по своим законам. Нигде на территории Белоруссии не было даже малейших попыток введения чрезвычайного положения и вообще каких-либо отступлений от норм обычной и спокойной жизни. И нечего пугать меня и в целом правительство отставкой и жалобами чуть ли не Президенту страны и даже другим президентам республик.

Я заявляю, что члены правительства работают так, как им подсказывает их совесть и по законам республики, руководствуются только этим и ничем иным. Правительство занималось своей повседневной работой, тем более что забот сейчас хватает. Идет уборка, большие проблемы с обеспечением людей продовольствием. Надо искать возможности решения крайне обострившегося положения с завозом зерна. И мы этим упорно занимались и занимаемся. Здесь же и подготовка к зиме да и весь огромный спектр дел с ресурсами сырья, топлива и так далее.

Хотя я находился в отпуске, были установлены контакты с руководителями некоторых республик. Мы сообщили им, что правительство Белоруссии категорически против любых действий, идущих вразрез с интересами нашего народа и Конституции. Прямо надо сказать, что в этих условиях трудно переоценить роль российского руководства, которое в тяжелый час испытаний проявило огромное мужество и твердость.

А теперь о том, как же нам жить дальше. Прежде всего нам нужно не на словах, а конкретными делами укреплять, наполнять реальным содержанием суверенитет республики. Давайте будем искренними. Ведь нередко, говоря о суверенитете, нас что-то связывало, что-то сдерживало, мы подчас все же оглядывались на Центр. Считали, что без Центра, без Союза не обойдемся, не сможем жить самостоятельно. Но ведь работающего, действующего Центра, регулирующего хозяйственные отношения, сегодня практически нет. Притом нет его уже давно. Может быть, в повседневной жизни мы не очень над этим задумываемся, но, наверное, не менее года живем без Центра. И ведь живем. Очевидно, могли бы даже жить лучше, если бы еще раньше сумели преодолеть в себе так укоренившуюся надежду на Союз, на Центр.

Я думаю, нам надо коренным образом пересмотреть нашу оценку, что якобы республика в безмерной зависимости от других регионов. В конце концов, в мире не так уж много стран, которые имеют весь набор минерально-сырьевых и топливных ресурсов. Однако живут и живут неплохо. Иное дело, что должны быть правильно построены торгово-экономические отношения с другими государствами. Нам, и я об этом уже не раз говорил с этой трибуны, есть чем торговать, мы можем одеть и накормить свое население, можем создать людям действительно достойную жизнь. У нас есть возможность самостоятельно развивать наш народнохозяйственный комплекс, и у нас для этого есть все предпосылки, включая мощный научно-технический потенциал, высокоразвитые базовые отрасли промышленности, потребительский комплекс и сельское хозяйство, высокий уровень образованности рабочего класса, интеллигенции и, пожалуй, самое главное — это добросовестное отношение к делу и трудолюбие нашего народа.

И если мы уважаем себя как народ, если у нас действительно есть чувство национальной гордости, а оно у нас несомненно есть, то мы должны отбросить всяческие сомнения и колебания и последовательно твердо и решительно строить наше свободное, независимое Белорусское государство. Причем шаги к этому, безусловно, надо предпринять уже, может быть, и на нынешней сессии.

Последние события, неудавшийся государственный переворот показали со всей очевидностью, что нам необходимо для страховки от любых случайностей (и я это поддерживаю у выступающих здесь) иметь свои независимые республиканские структуры. Прежде всего: органы госбезопасности, внутренних дел, полностью подчиняющиеся парламенту и правительству республики. Это касается и прокуратуры. Настало время создать орган типа независимого департамента безопасности республики со всеми его структурами. Что касается всей собственности, расположенной на территории республики, то это должна быть вся собственность республики, и необходимо принять самое срочное по этому вопросу решение.

И последнее. Мне часто в последние дни задают вопросы: а каково было мое участие в Бюро ЦК, выступившее с заявлением по оценке действия заговорщиков.

Я должен быть искренен и ответить так: в заседании Бюро ЦК не участвовал.

Все вместе взятое заставляет задуматься над тем, должно ли вообще правительство в условиях, когда наше общество все более демократизируется, когда формируется многопартийная система, подвергаться влиянию каких-либо политических сил? Необходимость выработки действительно объективных решений, не зависящих ни от какой конъюнктуры, логично подводит к следующему: жизнь сама поставила вопрос о департизации государственных структур. И прежде всего это касается аппарата Совета Министров и участия ответственных работников правительственных органов в руководстве любых партий. В ближайшее время правительство примет на этот счет необходимое решение.

А вообще я должен сказать, что трудностей у нас впереди непомерно много. Мы должны быть к ним готовы, и было бы совершенно неоправданным считать, что все опасности уже позади.

Я совершенно согласен с выступающими, что в последнее время со стороны некоторых республик проявляется шовинизм. Мне не хочется здесь, с этой трибуны, называть такие республики, но попытка давления со стороны республик на Белоруссию существует, и давление очень большое. Нам необходимо предпринять очень решительные шаги, чтобы защитить себя от подобных попыток.

Уверен, товарищи, что у нашего народа хватит мудрости в это трудное время поступить так же благоразумно, как и в тревожные дни наступления реакции. И мне кажется, правы были те, кто сказал: нельзя нам призывать сегодня ни к каким забастовкам. Ибо это приведет наш народ к полному обнищанию. Правительство будет проводить твердую линию на защиту интересов нашего народа. Мы будем последовательны в своих действиях по осуществлению антикризисной программы по защите населения от всяких социальных потрясений, наполнения суверенитета республики необходимым содержанием. Благодарю вас за внимание.

---

# ЗАЯВЛЕНИЕ

### фракции «Коммунисты Белоруссии за демократию» и присоединившихся к ней депутатов-коммунистов в Верховном Совете Белорусской ССР

В народе образ партии формируют не рядовые коммунисты, а ее функционеры. И сейчас многие номенклатурные члены партии в Верховном Совете лицемерно изображают себя борцами с путчистами.

Мы, народные депутаты БССР, входящие в группу «Коммунисты Белоруссии за демократию», считаем невозможным свое дальнейшее пребывание в этой партии.

Учитывая Заявление Президента СССР и его указы, мы, народные депутаты БССР-коммунисты, заявляя о своем выходе из КПСС, требуем немедленно включить в повестку дня сессии и принять постановление Верховного Совета Белорусской ССР о роспуске Коммунистической партии Белоруссии и передаче ее имущества Советам.

Сохраняя организационную структуру фракции, отстаивающей путь демократических реформ, мы объявляем о создании депутатской фракции «Демократические реформы» и просим ее зарегистрировать.

Мы обращаемся к народным депутатам всех уровней с предложением создать аналогичные фракции во всех Советах народных депутатов, чтобы и в Белоруссии поставить заслон противникам демократических реформ.

Мы обращаемся ко всем первичным партийным организациям, низовым партийным комитетам с предложением на основе фракции в Верховном Совете приступить к созданию республиканской партии за демократические реформы и развитие.

**В. Б. ДОЛГОЛЕВ, В. М. ШЕВЦОВ, Л. Г. СИНИЦЫН, И. И. ЖИДЕЛЯЕВ, А. В. СОСНОВ, Л. Н. СЕЧКО, А. Н. ШТОКИН, В. И. ТЕЛЕЖНИКОВ, А. Н. ПРОТАС, М. А. СЛЕМНЕВ, А. А. КАРПОВ, М. Д. СУКАЧ, В. В. ЛЮБОВИЦКИЙ, Е. П. ШИМЧУК, Н. И. ЛОБАЧ, В. Н. КУРДЮКОВ, В. В. ШЕЙМАН, И. М. ДРОБЫШЕВСКАЯ, А. П. ФРЕЙБЕРГ, А. С. НИКОНЧУК, В. Д. КУРБАЕВ, М. А. БОЛОТИН, В. П. АНДРЕЕНКО, А. Ф. КУЗЬМА, А. А. ЛЕТКО, Л. А. ЗВЕРЕВ, А. Г. ЛУКАШЕНКО, Е. И. ЧЕВАНЬКОВ, П. И. ХОЛОД, И. К. ЛОПОУХОВ, А. А. МОРДАШОВ, В. В. ВОЛЧЕЦКИЙ, Г. Д. ЧЕХ, В. В. ЗАХАРЕНКО, П. П. ШКАПИЧ, Э. А. БОГОВЦОВ, А. И. ДУБОВСКИЙ, Г. Г. КОКАРЕКО, К. В. РАХАТКО, А. А. КОВАЛЕВ, В. С. БРИСЛАЕВ, Д. И. СЫРОКВАШ, В. И. ВАСИЛЬЕВ, Ф. Ф. МИНЬКО, И. М. ДАНИЛЕВИЧ, И. И. ТРУСОВ, А. М. АПАЦКИЙ, В. Ф. КУЧИНСКИЙ, М. И. ГРИБ, А. Е. ВОЛКОВ, В. А. ЯСТРЕБ, А. И. ПАВЛОВСКИЙ, А. Н. ШИДЛОВЕЦ.**

---

*Уладзімір КАВАЛЁНАК:*

## «Не хачу быць у гэтай злачыннай арганізацыі»

**У суботу на нечарговай сесіі ў вусцішнай цішыні прагучалі словы заявы народнага дэпутата БССР, лётчыка-касманаўта, двойчы Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Кавалёнка. Пасля іх зала ўзарвалася апладысментамі. У кулуарах адны яго шчыра віншавалі, другія — крыва ўсміхаліся і адварочваліся.**

**— Уладзімір Васільевіч, як вы прыйшлі да рашэння выйсці з КПСС, і чым яно абумоўлена?**

— Адназначна не адкажаш. Але мера цярпення, хлусні і двайнога жыцця апусцілася да нуля. Не адзін дзень над гэтым мучыўся. Часамі было цяжэй, чым у космасе, калі бачыў двурушніцтва гэтай, цяпер ужо можна смела гаварыць, злачыннай арганізацыі. Не хачу і хвіліны быць у ёй. І таму хочацца хоць у сталыя гады адчуць сябе чалавекам вольным, гаварыць, што думаю, жыць і хадзіць не па ўказцы партыйнага наглядальніка, суддзі і пракурора.

**— Але ж вы яшчэ і ў тыя часы не дужа маўчалі і не хаваліся за спіны іншых. Магчыма, вашы заслугі...**

— Яно так. Толькі заслугі мае тут ні пры чым. Часамі прарывалася спантанна, душа кіпела, а трэба было ўсміхацца і пець алілуя, бо нас выхоўвалі на гэтай страшнай і чорнай «рэлігіі» — рабства і падпарадкавання знізу да верху ад імя партыі. А ў партыі былі і калгаснік, і рабочы, і сакратар райкама, і генсек. Пакрытыкаваў камуніста-калгасніка — выступіў супраць усёй партыі, пакрытыкаваў генсека — таксама. Вось і жылі двайным жыццём. Сапраўднае — на кухні з сябрамі.

**— Але ж вы ўступілі ў партыю не па прымусу?**

— Я тады шчыра верыў у яе ідэі, а на справе аказалася, што гэта не так. Злачыннасць, двурушніцтва гэтай арганізацыі, а не партыі, праявілася літаральна на днях. Гэта і прывяло да канчатковага выбару. Хаця мне, вайскоўцу, зрабіць гэта было значна цяжэй. Прыбыў да галаўкама ВПС Шапашнікава, цяпер ужо міністр абароны СССР, і дакладваю, маўляў, так і так, выходжу з партыі. А ён глядзіць на мяне і гаворыць выразна па складах: «Рашыў, ну і выходзь». Ну, думаю, паленым пахне. Кажу яму, што дэпалітызую інстытут, усе службы. У адказ: «Правільна зробіш! Я таксама вырашыў пакінуць такую партыю». Адлегла ад сэрца.

**— А як вы, Уладзімір Васільевіч, ацэньваеце «дзейнасць» Кампартыі Беларусі?**

— О, гэта асобная размова! Калі адным словам — самая кансерватыўная і рэакцыйная. Асабліва партыйна-дзяржаўная вярхушка. Пачніце, для прыкладу, з Вярхоўнага Савета. Яшчэ на пачатку яго дзейнасці Сакалоў «гутарыў» паасобку амаль з кожным камуністам-дэпутатам, які наведваў дэмклуб. А чаго варты яго «падарунак» — 50 дэпутатаў ад ветэранскай арганізацыі. Або такі факт, калі пленум ЦК КПБ здымае аднаго Старшыню Саўміна і назначае другога. І гэта літаральна недзе год-паўтара назад. Скажыце, а што значыць «сацыялістычная айчына ў небяспецы». Гэта мы чулі толькі ў 41-м, калі фашыст стаяў пад Масквой. А ў нас жа на двары 91-ы год. Або патрабаванне вярхушкі ЦК КПБ аб увядзенні надзвычайнага становішча? Гэта было не простае карканне — рыхтаваўся крумкачовы пераварот... І дакаркаліся. Нават у сваім апошнім выступленні на сесіі Малафееў застаўся «верным ленінцам».

**— А як вы ацэньваеце паводзіны камуністычнай большасці на сесіі?**

— Ні што іншае, як чарговая спроба захаваць уладу і абяліць сябе. Гэта хутчэй партыйна-мацёрая большасць, месца якой ужо на звалцы. Таму Вярхоўны Савет трэба тэрмінова распусціць. Не дапаможа і адстаўка Дземянцея.

**— Ну, а апазіцыя?**

— Гэта ў асноўным таленавітая моладзь са сваімі жыццёвымі пазіцыямі. Іх шлях найбольш правільны. Але ім часам бракуе тактыкі, палітычнай гнуткасці, захліstваюць эмоцыі. Але за імі будучыня.

**— А як вы адносіцеся да апошніх указаў Прэзідэнта?**

— Іх толькі трэба вітаць. Рана ці позна яны павінны былі з'явіцца. Дэпартызацыя дзяржаўных структур, дэмантаж ЦК КПБ, абласных і раённых камітэтаў, вывад парткамаў з вытворчасці — першасная задача. Па-другое, трэба вярнуць народу ўсё тое, што ў яго награбіла гэта банда.

**— Уладзімір Васільевіч, апошняе пытанне. Што б вы пажадалі беларусам, сваім землякам?**

— Нас усё палохаюць, што беларускі народ адзін не выжыве. Ды лухта ўсё гэта. Мы ж не на востраве. Нам патрэбен не слоўны суверэнітэт, а канстытуцыйны. Але нам не трэба і сталінскага ярма. А ў працавітасці, сумленнасці і стойкасці майго народа ніхто не сумняваецца. Айчына, хоць і марудна, але прачынаецца ад партыйнай летаргіі. Больш рашучасці і ўпэўненасці ў згуртаванасці, мае суайчыннікі!

**Гутарыў Іван РУБІН, аглядальнік «Народнай газеты».**

---

# Телеграмма

### Минск, Дом правительства, главному редактору «Народной газеты»

Спасибо России, Б. Н. Ельцину за спасение Президента, России и демократии в стране. Низкий поклон Москве и москвичам за их мужество, самоотверженность и стойкость. Все эти дни белорусский народ был с вами. С уважением — Савич Анатолий Владимирович, инспектор РОНО города Борисова.

